***Разблытайма таямніцы!***

# Скарб Думак

**№ 4.**

ПАНЯДЗЕЛАК
17
ЛІСТАПАДА
2003 ГОДА

***Незалежнае рознабаковае выданне***

**Са Святам на тыдні усіх, хто ў гэтыя дні нарадзіўся, пабраўся шлюбам і г. д. Рэдакцыя "Скарба Думак".**

## *ПЕРАДРУК*

### Пра нацыянальную выключнасьць беларусаў,

**якая заключаецца ў тым, каб ня быць падобнымі ні на адзін нармальны народ сьвету, а найперш — каб ня быць падобнымі на сябе саміх**

«Любі чужое аж да пакланеньня, сваё любі — да самазабыцьця», — сказаў паэт. Так яно ў нас і было за савецкім часам. Праўда, з усяго чужога пакланяліся мы толькі Расеі, яе *вялікай* культуры, яе *праўдзівай* гістарычнай дактрыне, яе *магутнай* мове. Але і сваё — любілі. Часам літаральна — да самазабыцьця, гэта значыць забываючы родную мову, гісторыю і культуру. Так было да 1995 году, да першага рэфэрэндуму, калі ўсё дзяржаўнае ў нас стала люстэркам прыватных густаў Аляксандра Лукашэнкі. Зь ягоным прыходам сваё любіць перасталі. Сваё наракалі чужым, нацыяналістычным, бээнэфаўскім і ўжо ніяк не дзяржаўным. Затое да самазабыцьця закахаліся ў Расею, яе культуру, яе гістарычную дактрыну, яе мову.

У нас як нацыі і ў нашай дзяржавы цяпер нічога свайго няма. Мы вызваліліся ад яго гэтаксама, як ад свайго навязьлівага вясковага паходжаньня вызваляліся нашы гараджане першага пакаленьня. Яны ўсімі сіламі імкнуліся «разгаварываць па-гарадзкому» і страшна саромеліся, калі ў іхнай гаворцы праскокваў беларусізм. Ці ня кожны беларус майго пакаленьня згадае, як цяжка пасьля летніх канікулаў, праведзеных у вёсцы, зь яго выбівалі гэтыя мілыя «г» і «ч», што імгненна прыставалі да языка, нібы пакліканыя аднекуль з глыбіні нашых дзіцячых душ.

**Працяг артыкулу Сяргея Дубаўца на старонцы 2.**

## Віншаванне

***Студэнтаў са святам** вiншуе рэдакцыя "Скарба Думак"!*

***Рабіце свае справы на карысць беларускай нацыі! Будзьце ўпартымі ў дасягненні сваіх мэтаў! Здзяйснення Вашых мараў і ўсяго найлепшага!***

## Сёння ў нумары:

**І ён быў са светачам...** *Старонкі 3-4.*

## *Дзень 17 лістапада ў гісторыі:*

**1893** г. – нарадзіўся Кастусь Езавітаў (памер 23 траўня 1946 г.), беларускі публіцыст, навуковец, грамадска-палітычны дзеяч, перакладчык, педагог, гісторык..

**1904** г. -- нарадзіўся Ісаму Нагучы (памер 30 снежня 1988 г.)

**1913** г. -- праз Панамскі канал прайшло першае судна.

**1917** г. -- памер Агюст Рэнэ Франсуа Радэн (нарадзіўся 12 лістапада 1840 г.) – французскі скульптар; адзін з заснавальнікаў імпрэсіянізму ў скульптуры. Сярод твораў – «Чалавек са зламаным носам», «Бронзавы век», «Іаан Хрысціцель», «Ева», «Пацалунак», «Мысліцель», «Вечная вясна», «Грамадзяне Кале» і інш.

**1932** г. -- Франц фон Папен сыходзіць у адстаўку з паста канцлера Германіі, каб даць магчымасць сфармаваць новую кааліцыю на наступных парламенцкіх выбарах.

**1933** г. -- ЗША заяўляюць аб прызнанні СССР і ўзнаўляюць з ім гандлёвыя адносіны.

**1937** г. -- член брытанскага ўрада, старшыня палаты лордаў Эдуард Фрэдэрык Ліндлі Вуд Галіфакс (16.4.1881-23.12.1959) сустракаецца з Гітлерам, спрабуючы вырашыць судэцкае пытанне мірным шляхам (перамовы працягваліся да 21 лістапада)

**1940** г. -- памёр Эрык Гіл ва ўзросце 58 год.

**1942** г. -- нарадзіўся Марцін Скарсезе – амерыканскі кінарэжысёр. Яго лепшыя фільмы адметныя аўтабіяграфічнасцю, дакладнай абмалёўкай асяроддзя, увагай да псіхалогіі персанажаў. Сярод фільмаў: «Злыя вуліцы» (1973), «Аліса тут больш не жыве» (1974), «Таксіст» (1976), «Нью-Йорк, Нью-Йорк» (1977), «Апошні вальс» (1978), «Шалёны бык» (1980), «Кароль камедыі» (1982), «Апошняе спакушэнне Хрыста» (1988) і «Казіно» (1995).

**1956** г. -- Канстытуцыйная асамблея ў Джаму і Кашміры прымае новую Канстытуцыю і пацвярджае рашэнне аб далучэнні да Рэспублікі Індыя.

**1958** г. -- у Судане да ўлады прыходзіць войска. Генерал Ібрагім Абуд займае пасты кіраўніка дзяржавы, прэмьер--міністра і галоўнакамандуючага узброенымі сіламі.

**1961** г. -- Камуністычная партыя ЗША адмаўляецца падначаліцца рашэнню Вярхоўнага суда ЗША, у адпаведнасці з якім яна павінна была зарэгістравацца як арганізацыя, у якой большасць членаў з'яўляюцца замежнікамі.

**1964** г. -- Вялікабрытанія заявіла аб сваім намеры забараніць экспарт зброі ў Паўднёвую Афрыку.

**1969** г. -- у Хельсінкі пачаліся савецка--амерыканскія перамовы па абмежаванні стратэгічных узбраенняў.

**1971** г. -- адбыўся ваенны пераварот у Тайландзе.

**1971** г. -- памерла Глэйдзіс Купер ва ўзросце 82 год.

**1977** г. -- у Вялікабрытаніі надрукаваны трэці даклад Каралеўскай камісіі па размеркаванню даходаў і дабрабыце.

**1989** г. – у Сан-Сальвадоры пачынаюцца баі пасля таго, як атрады паўстанцаў захапілі частку горада.

**1989** г. -- паліцыя разганяе мірную дэманстрацыю ў Празе.

**1993** г. -- ваенны пераварот перапыняе кароткі перыяд грамадзянскага праўлення ў Нігерыі. Міністр абароны генерал Сані Абака бярэ на сябе паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы.

**1993** г. -- Палата прадстаўнікоў кангрэса ЗША ўхваляе Пагадненне аб вольным гандлі, заключанае з Канадай і Мексікай.

## Давайма супрацоўнічаць!

Кожны цывілізаваны народ ганарыцца сваёй гісторыяй, без далучэння да якой няма дарогі ў будучыню. Мы мала ведаем пра свае вытокі і карані, сваіх слаўных продкаў, іх подзвігі і пошукі шчасця для Бацькаўшчыны. Гістарычная праўда была закрыта, замоўчвалася, перакручвалася.

Веданне мінуўшчыны, адчуванне непарыўнай повязі часоў і падзей, памкненняў людскіх дае чалавеку трывалы грунт яго існавання на зямлі, дазваляе глядзець у будучыню.

Гісторыя – наш духоўны скарб, які мы павінны сабраць, зберагчы і перадаць нашчадкам.

Перадавайце свае матэрыялы ў гістарычны аддзел выдання "Скарб Думак"!

Міхась ЛЕБЕДЗЬ

*Віншуем з Днём Студэнта!*



*Са сьвятам!*

Наша Ніва [20] 30 траўня 2003

Працяг са старонкі 1.

# Пра нацыянальную выключнасьць беларусаў

Сёньня мы — самая ўнікальная нацыя ва ўсім цывілізаваным сьвеце. Мы з такой лёгкасьцю зьнішчаем уласную спадчыну, нібы тыя камсамольцы-бязбожнікі, што ў 30-я гады руйнавалі цэрквы і выкідалі з бацькоўскіх хат абразы. У параўнаньні з тымі ж расейцамі ці палякамі, латышамі, літоўцамі, украінцамі (усе — нашы суседзі) мы ўсё робім наадварот. Можа быць, гэткая ўнікальнасьць і дае нам падставы для гонару, але ці лепей мы ад гэтага жывём? Ці ясьней за тых жа суседзяў бачым будучыню — сваю і сваіх дзяцей? Ці пачуваемся багатымі — духоўна і матэрыяльна? Ці болей нас шануюць у сьвеце?

Свая мова, гісторыя і культура — у прынцыпе, толькі гэтым розьніцца цывілізаваны народ ад таго, які — не зусім. Гэта значыць, усе нашыя суседзі — ад нас. Можа быць, мы вылучаемся нейкай новай рэвалюцыйнай тэорыяй і заўтра ўвесь сьвет зразумее наша самаадрачэньне ды кінецца таксама заганяць свае мовы і культуры ў апазыцыю ды перапісваць свае гісторыі так, каб сабе самім там адводзілася самае ўбогае і непрывабнае месца? Тады — у нас вялікая місія. А мэсіям заўжды няпроста. І трэба цярпець. Наўрад ці нам пашчасьціць жыць у тым «сьветлым заўтра». Таму застаецца спадзявацца на ўнукаў, якія пабачаць... Зрэшты, што яны пабачаць пасьля нас, сваіх дзядоў, калі мы самі пасьля сваіх ва ўпор ня бачым нічога? Мы самаадракліся, закладаючы гэткі прынцып паводзінаў на ўсю будучую гісторыю, на ўсіх сваіх унукаў, якім нічога не застанецца, як самаадрачыся сьледам. А гэта значыць, што і яны жыць будуць ня лепей за нас — ані духоўна, ані матэрыяльна.

Вы скажаце — гэта ж тупік! Што нам замінае быць такімі, як усе, — нармальнымі, пасьпяховымі, багатымі і паважанымі, прынамсі сярод суседзяў? Нам замінае ўсенароды рэфэрэндум 1995 году, калі мы адракліся ад сваіх спадчынных каштоўнасьцяў — роднай мовы, самадастатковай гісторыі і культуры. Нам замінае дзяржаўная палітыка, што абапіраецца выключна на ірацыянальныя хоцькі-няхоцькі аднаго чалавека. Нам замінае акадэмічная навука, што тыя хоцькі-няхоцькі абгортвае ў форму навукападобных сэнтэнцыяў.

Апошні прыклад — артыкул акадэміка Падлужнага, дырэктара Інстытуту мовазнаўства, у часопісе «Беларуская думка», які менавіта такімі сэнтэнцыямі стракаціць: «Кожнаму з тых, хто зьяўляецца шчырым прыхільнікам беларускай мовы, неабходна абмежаваць свае жаданьні распаўсюдзіць яе ўжываньне на ўсіх сфэрах, а толькі ў тых, дзе можна дасягнуць поспеху ўжо сёньня»...

Інакш кажучы, акадэмік прапануе «шчырым прыхільнікам» абмежаваць сваю «шчырую прыхільнасьць». Мне гэта нагадала колішнюю рэкамэндацыю А.Лукашэнкі беларускаму народу — устрымацца ад ужываньня мяса. А яшчэ я паспрабаваў уявіць сабе такую фразу, зьвернутую да любога з нашых суседзяў — латыша, літоўца, паляка, расейца, украінца. Рэакцыяў магло б быць толькі дзьве: чалавек нічога не зразумеў і паглядзеў на акадэміка як на дзівака; чалавек адказаў неакадэмічнымі словам, жэстам або рухам. У нас жа сэнтэнцыя надрукаваная ў прэзыдэнцкім часопісе і зьяўляецца настойлівай рэкамэндацыяй для тых, хто праводзіць дзяржаўную палітыку.

Ну, а што адказаў бы акадэміку беларус? Напрыклад я. Я — «шчыры прыхільнік», хоць мне зусім не падабаецца, што спадар Падлужны дае нейкую кваліфікацыю звычайнаму носьбіту беларускай мовы, які карыстаецца ёю дома, зь дзецьмі і ў дачыненьнях зь дзяржаўнымі службамі. Ёсьць, ведаеце, такія людзі, што не пайшлі на самаадрачэньне. І як гэта ні дзіўна, але пачуваюцца яны нармальнымі людзьмі. Тут акадэмік Падлужны нагадаў мне расейскага турыста ў Парыжы, які, пабачыўшы французскае дзіця, зьдзіўлена ўсклікнуў: «Такой маленький, а уже по-французски говорит!»

Нас, «таких маленьких», у Беларусі зусім нямала. І галоўная праблема наша — якраз у дачыненьнях зь дзяржаўнымі «сфэрамі». Калі беларускі службовец ня здольны на наш, грамадзянаў Беларусі, зварот па-беларуску адказаць на дзяржаўнай беларускай мове. Спадар Падлужны прапануе нам зь піэтэтам ставіцца да элемэнтарнага невуцтва выпускнікоў беларускіх школаў на дзяржаўных пасадах. Гэта як бы ў савецкія часы нам прапаноўвалі маліцца на папулярную таблічку «Ушла на базу». Па вялікім рахунку, менавіта чынавенскае невуцтва прычыняе нам, беларускамоўным, найбольш нязручнасьцяў ва ўласнай краіне. Астатняе — садкі і школы, кнігі і газэты — мы ствараем сабе самі, нават пры тым неверагодным ціску, які робяць на нас дзяржаўныя органы. Але Бог зь імі. Пераживём. Толькі ня трэба прымушаць нас самаабмяжоўвацца. Мы на гэтай зямлі дома. Лягічна было б самаабмежавацца прадстаўнікам іншых моваў і культураў, у якіх ёсьць мэтраполіі. У беларусаў іншае мэтраполіі няма.

Зрэшты, я зусім не пра тых палякаў ды ўкраінцаў, што жывуць у Беларусі, і не пра расейцаў, якія ў нас — вышэй за ўсіх, самыя прывілеяваныя. Я нават не пра тое, што родную мову трэба было б неяк паважаць, прынамсі ў акадэмічным Інстытуце мовазнаўства. Я пра тое, што нашых нацыянальнае выключнасьці, якім Беларусь ідзе на чале з А.Лукашэнкам, прывёў нас у цывілізацыйны тупік. І ўсё болей людзей у Беларусі разумеюць, што наша краіна і дзяржава — стаяць на месцы. Каб рушыць далей, варта перастаць быць самымі разумнымі і пачаць жыць паводле агульнапрынятых законаў, прыярытэтаў і каштоўнасьцяў. Як гэта ні цяжка — жыць нармальна.

**Сяргей Дубавец**



## СТАРОНКІ КНІГІ

# IX. ПЕРЫЯД СТАНАЎЛЕННЯ ПАЛІТЫЧНАЙ НАЦЫІ

## 34. РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ПАРЛАМЕНЦКАЯ. 1991-1994.

*Захар ШЫБЕКА*

/ працяг, пачатак у папярэднім нумары /

Па версіі філосафа і палітолага Вячаслава Оргіша, падзеі разгортваліся наступным чынам. Было навязана прыняцце пасады прэзідэнта, бо патрабаваўся моцны рычаг улады для развароту краіны ва ўсходнім накірунку. Савет міністраў рыхтаваў закон, які б надаў Вячаславу Кебічу "царскія правы". Праўда, прэм'еру сталага веку не хапала палітычнай рашучасці ў правядзенні крамлёўскіх планаў. Таму на ўсякі выпадак патрабаваўся больш малады і больш здольны дублёр. І каб атрымаць яго, у праекце закона аб прэзідэнце прарасійскім сілам, на думку Вячаслава Оргіша, удалося прымусіць кансерватыўную большасць Вярхоўнага савета зняць норму, якая абмяжоўвала ніжні ўзрост прэтэндэнта на прэзідэнтцкую пасаду 45 гадамі.

**Вынікі выбараў.** 23 чэрвеня стаў днём выбараў першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Упершыню ў беларусаў з'явілася магчымасць адносна свабодна і дэмакратычна выбраць свайго палітычнага лідэра. У выбарах прыняло ўдзел каля 79% выбаршчыкаў. Ні адзін прэтэндэнт не набраў больш паловы галасоў. У другі тур галасавання прайшлі Аляксандр Лукашэнка (каля 45% галасоў) і Вячаслаў Кебіч (17%). Зянон Пазняк набраў каля 13%, Станіслаў Шушкевіч -- 10, Аляксандр Дубко -- 6 і Васіль Новік -- 4%. У беларускіх патрыётаў, відаць, мелася магчымасць выйсці ў другі тур, калі б яны выставілі не двух, а аднага кандыдата. За Зянона Пазняка і Станіслава Шушкевіча галасавала ў цэлым больш людзей, чым за Вячаслава Кебіча. Перагаласаванне, што адбылося 10 ліпеня, дало перамогу 39-гадоваму Аляксандру Лукашэнку (больш 80% галасоў выбаршчыкаў). 20 ліпеня адбылося прынясенне прысягі прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Урад Вячаслава Кебіча пайшоў у адстаўку. Другі ўрад незалежнай Беларусі ўзначаліў Міхаіл Чыгір. Беларусь атрымала амаль усе атрыбуты суверэннай дзяржавы. Перыяд фарміравання структуры беларускай дзяржаўнасці ў асноўным скончыўся. Заставалася толькі сфарміраваць яе свядомых грамадзян.

### 34.3.Эканамічнае бязладдзе.

**Інертнасць эканомічнай палітыкі.** Рух за незалежнасць звязваўся ў Беларусі найперш з эканомікай, мажлівасцю зрабіць жыццё больш забяспечаным. Былі спадзяванні на першага прэм'ера Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча, ранейшага старшыню Дзяржплана, прадстаўніка фракцыі "прамыслоўцаў", або камуністаў-прагматыкаў. І сапраўды, яго ўрад ужо ў 1990 г. пачаў фарсіраваць працэс дасягнення эканамічнай самастойнасці Беларусі шляхам устанаўлення гарызантальных сувязей з саюзнымі рэспублікамі. Аднак намаганняў было мала. Незалежнасць амаль не выклікала карэнных перамен у эканамічнай палітыцы Вячаслава Кебіча. Як і раней, усё трымалася на канонах савецкага гаспадарання. Ва ўсіх галінах вытворчасці, гандлю і фінансаў старанна падтрымліваўся дзяржаўны манапалізм і камандная сістэма кіравання. Але старая эканамічная мадэль рабілася неэфектыўнай. Страціла дзяржаўную функцыю кантролю камуністычная партыя. Непазбежна разрываліся былыя, часам штучна створаныя эканамічныя сувязі былога Саюза. Узніклі цяжкасці з забеспячэннем рэспублікі сыравінай, 90% якой завозілася звонку, і палівам, цэны на якое ўзрасталі. У выніку ўжо ў 1991 г. Беларусь ператваралася з экспарцёра ў імпарцёра тавarнай прадукцыі. Патрабавалася правядзенне істотнай эканамічнай рэформы, аднак яна марудзілася. Прадпрыемствы выпускалі нікому не патрэбныя рэчы, а рабочым плацілі хутчэй не за працу, а за лаяльнасць ураду і адказ ад страйкаў. Прыходзілася ўтрымліваць расійскае войска. Толькі на абслугоўванне ядзернай зброі даводзілася траціць амаль 2 млрд. долараў штогодна. Эканамічныя ж выдаткі аплочвала, як заўсёды, вёска. Цэны на паліва і на прамысловыя вырабы, у параўнанні з цэнамі на прадукцыю калгасаў і саўгасаў, узняліся настолькі, што займацца сельскай гаспадаркай станавілася не выгадна. Калгасна-саўгасная сістэма трымалася на амаль што рабскай працы вяскоўцаў.

**Элементы рыначнай эканомікі.** Улады адважыліся на некаторыя меры па пашырэнню рыначных адносін: далі прадпрыемствам пэўную волю распараджацца выробленай прадукцыяй, стварылі спрыяльныя ўмовы для замежных інвестыцый (лістапад 1991 г.), увялі частковую свабоду цэнаўтварэння (студзень 1992 г.), дапусцілі частковую прыватызацыю (1993 г.). На 1 красавіка 1994 г. у Беларусі мелася 34 камерцыйныя банкі (у 1992 г. -- 26), дзейнічалі прыватныя магазіны і прадпрыемствы. Як грыбы павырасталі шапікі з гумавымі жвачкамі, шакаладкамі, цыгарэтамі і рознай драбязой. Узнікалі і фермерскія гаспадаркі, хоць для іх росту ніякіх умоў не ствараласся. Старшыні калгасаў не спяшаліся выконваць вельмі важны закон аб прыватнай уласнасці на зямлю, прыняты ў верасні 1991 г., бо не хацелі падрываць сваё панаванне над вяскоўцамі. Сапраўднага прадпрымальніцтва пад наглядам чыноўнікаў існаваць не магло.

**"Эмбрыяльная" буржуазія.** Эканамічным лібералізмам скарысталіся пераважна гарадскія чыноўнікі. Яны расцягвалі дзяржаўнае дабро пад выглядам прыватызацыі, стварэння акцыянерных аб'яднанняў і проста так -- на праве мацнейшага. Учарашняя партыйная наменклатура паспешліва стварала "камерцыйныя" банкі, каб потым набіраць у іх заведама незваротныя крэдыты. Новавыпечаныя прадпрымальнікі не мелі спрыяльных умоў і жадання укладваць назапашаныя сродкі ў рызыкоўную вытворчасць, а таму спакойна жылі працэнтамі на капіталы ці шукалі гандлёвых звышпрыбыткаў. Імкліва пашыралася карупцыя. Намецілася перспектыва трансфармацыі беларускага сацыялізма ў алігархічны і ліхвярскі капіталізм.

**Эканамічныя ўмовы жыцця.** З другога боку ішло імклівае збядненне большай часткі насельніцтва. Панаванне дзяржаўнай бюракратыі прывяло да таго, што Беларусь за два гады праела ўсе свае запасы і крэдыты. Восенню 1993 г. склалася крызіснае становішча. Беларускія рублі, уведзеныя з 25 мая 1992 г., абясцэньваліся не па днях, а па гадзінах. Інфляцыя перавышала 400% у год і неўзабаве "спаліла" у ашчадных касах зберажэнні насельніцтва. Людзі сутыкнуліся з пустымі крамамі, беспрацоўем, якое з 1992 г. стала прызнавацца афіцыйна. Калі сярэднюю зарплату ў 1990 г. узяць за 100%, то яе дынаміка ў наступныя гады будзе

/ працяг на старонцы 3 /

выглядаць такім чынам: 1991 -- 154%, 1992 -- 101, 1993 -- 52, 1994 -- 32%. Са студзеня 1993 г. асноўныя прадукты харчавання размяркоўваліся па картках. У вялікіх гарадах узнавіўся жабрацкі промысел. Якраз у 1993 г. упершыню за пасляваенны перыяд колькасць памёршых у краіне перавысіла колькасць нарадзіўшыхся. У 1992-1994 гг. цэны ўзраслі ў 32 разы. Са студзеня 1994 г. рост цэн перакінуўся на прадукты харчавання, транспарт, камунальныя паслугі. Значна скарацілася колькасць міжгародніх і гарадскіх аўтобусных маршрутаў. Стаялі без сыравіны заводы, рабочых адпраўлялі ў вымушаны адпачынак. Валавы нацыянальны прадукт скараціўся за 1993 г. на 31%. Яшчэ ніколі за апошніх 30 гадоў беларускі народ не жыў так дрэнна.

**Першы вопыт узнаўлення эканамічнай інтэграцыі з Расіяй.** Вячаславу Кебічу нічога не заставалася, як прасіць у Расіі эканамічнай апекі. У красавіку 1994 г. у Маскве тагачасныя прэм'еры Віктар Чарнамырдзін і Вячаслаў Кебіч разам са сваімі галоўнымі банкірамі Віктарам Герашчанка і Станіславам Багданкевічам падпісалі пагадненне аб адзінай рублёвай зоне. Але вярнуўшыся ў Мінск, Станіслаў Багданкевіч дэзавуіраваў свой подпіс, бо пагадненне пазбаўляла Нацыянальны банк Беларусі права эмісіі, што парушала суверэнітэт рэспублікі. Ды і Масква палічыла для сябе такую дабрачыннасць занадта стратнай і ў адзіную "рублёвую зону", на якую так спадзяваўся Вячаслаў Кебіч ды і амаль увесь беларускі народ, Рэспубліку Беларусь не дапусціла. Расія аб'явіла аб намеры будаваць заводы -- аналагі беларускіх "БелАЗа", Мінскага трактарнага, "Гомсельмаша" і абходзіцца ўласнай сельскагаспадарчай прадукцыяй. А першы ўрад незалежнай Беларусі замест таго, каб узяцца за самастойнае гаспадаранне, усё чакаў выратавальнага аб'яднання з Расіяй і абяцанага абмену рублёў у adносіне 1:1. Эканаічны патэнцыял назапашаны ў перыяд савецкай Беларусі не быў скрыстаны. Рэфарміраваная расійская эканоміка не магла аб'яднацца з замярцвелай беларускай. У той жа час Беларусі выдаваліся расійскія крэдыты, спісваліся даўгі. Магчыма гэта рабілася і з добрымі намерамі, але на самай справе такая дапамога толькі прывучала да ўтрымальніцтва, перашкаджала радыкальным рэформам і ў канечынм выніку ставіла Беларусь у эканамічную залежнасць да Расіі. Адданасць каманды Вячаслава Кебіча савецкім прынцыпам гаспадарання і размеркавання прывяла да таго, што ў правядзенні эканамічных рэформ незалежная Беларусь адстала ад Расіі. Так, у 1994 г. у рэспубліцы было прыватызавана толькі 5% дзяржаўнай маёмасці. Вялікія сродкі паглыналіся мерамі па ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. У 1994 г. новая Беларусь атрымала права на безпадатковы імпарт пэўнавызначаных тавараў з ЗША, як краіна, што развіваецца. Развітай краінай яе не лічылі.

**Сацыяльныя пратэсты.** У сакавіку-красавіку 1992 г. даволі працягла баставалі шахцёры Салігорска. У маі на тры гадзіны прыпініўся рух маршрутных аўтобусаў у Мінску. 12 студзеня 1994 г. Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі арганізавала мітынгі пратэсту супраць пагаршэння ўмоў жыцця ў Мінску, Гомелі, Магілёве. Але страйкавы рух не набыў значных памераў. Урад стрымліваў яго шляхам павышэння заробкаў.Назіралася своеасаблівая гульня ў перагонкі з інфляцыяй. Незадаволенасць урадам, які не мог прыпыніць зглення народу, прывяла да таго, што ў час выбараў першага беларускага прэзідэнта кандыдатура Вячаслава Кебіча з трэскам правалілася.

34.4. Посттаталітарная культура.

**Новыя ўмовы.** Афіцыйная лінія на стварэнне беларускай нацыянальна-дзяржаўнай ідэалогіі выклікала ў першыя гады незалежнасці невядомыя раней інтузіястычныя настроі творцаў. Ва ўжытак уводзіліся здабыткі беларускай культуры, створаныя па-за савецкай ідэалогіяй, пераважна ў беларускім эміграцыйным асяродку. Поўная ліквідацыя цэнзуры і свабодны доступ да культурнай спадчыны народаў ўсяго свету стварылі неверагодна спрыяльныя ўмовы для культурнага абмену. У нацыянальную культуру вярталася хрысціянская духоўнасць. Вернікі Беларусі ўрэшце дачакаліся часу, калі ім пачалі вяртаць храмы і дазваляць будаваць новыя, паводле закона 1992 г. аб свабодзе веравызнанняў.

**Беларусізацыя.** Незалежнай, але зрусіфікаванай Беларусі патрабавалася беларусізацыя. Пашыралася выкладанне на беларускай мове. Калі ў 1986 г. па беларускаму буквару вучылася чытаць каля 25% першакласнікаў краіны, то ў 1993 г. – 80%. Да пачатку 1993-94 навучальнага года для ўсіх класаў былі створаны і выдадзены на беларускай мове 20 новых падручнікаў па гісторыі, дзе важнае месца адводзілася Вялікаму Княству Літоўскаму і асуджэнню савецкага таталітарызму. Імкненне інтэнсіўней выкарыстоўваць беларускую мову ў сродках масавай інфармацыі натыкалася, праўда, на матэрыяльныя цяжкасці. Выдаўцы не атрымалі ў свае рукі ні друкарняў, ні памяшканняў, а таму і не пазбавіліся залежнасці ад наменклатуры, якая распараджалася дзяржаўнай маёмасцю і дыктавала свае ўмовы. Чыноўнікі размяркоўвалі паперу, грашовыя сродкі не на карысць беларускіх выданняў. На беларускай кінастудыі адсутнічала спецыяльнае абсталяванне для сінхранізацыі замежных фільмаў. Міжнародная інфармацыя па-ранейшаму прыходзіла праз Маскву. Дзяржаўная наменклатура ўпарта гаварыла па-руску. Паўсюды чулася руская мова. І дзеці беларускай інтэлігенцыі пыталіся ў бацькоў, чаму яны размаўляюць не так, як усе людзі. Закон 1990 г. аб пераходзе на беларускую мову ўрадам не выконваўся. Па выніках узнаўлення сваіх культурных традыцый нацыянальныя меншасці ў Беларусі апярэджвалі саміх беларусаў, а каштоўнасці беларускай культуры прымалі не вельмі ахвотна.

**Некаторыя добрыя прыклады.** У лютым 1992 г. нечакана зніклі бюсты Леніну і Марксу, што стаялі ля былога будынку ЦК КПБ. Але вайна з помнікамі камуністычным правадырам не выбухнула. Побач з імі ставіліся новыя: беларускаму святару і асветніку Кірылу Тураўскаму ў Пінску, беларускаму мастаку Язэпу Драздовічу ў Мінску, беларускаму першадрукару Францыску Скарыне ў Лідзе. Засноўваліся гімназіі, каледжы, ліцэі, недзяржаўныя ВНУ. Сталі выходзіць гістарычныя часопісы "Спадчына" (1989), "Беларускі гістарычны часопіс" (1992), "Беларуская мінуўшчына" (1993) і "Беларускі гістарычны агляд" (1994, рэдактар-выдавец Генадзь Сагановіч). На сродкі ЮНЕСКА пачалася рэстаўрацыя Мірскага замка.

№ 14, лістапад 2003 года




# І ён быў са светачам...

***Упершыню пабачыў на вокладцы выдання прозвішча Ластоўскага на другім курсе універсітэта ў Вільні – купіў там у кнігарні, у букіністычным аддзеле ягоны «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік», выдадзены ў 1924 годзе ў Коўне.***

Усю дарогу ў цягніку гартаў яго, здзіўляючыся і ад адмысловай прадмовы («вярхі нашага нацыянальнага дрэва, пэрыёд за пэрыёдам, засыхалі і адпадалі ад народнага пня», «наша мінуўшчына – гэта блуканьне па раздарожжах і муках, а мы цяпер ізноў пры крыніцах гаючае і жывучае вады, пры сваім народзе Крывічанскім»), і ад перакладных слоў і тлумачэнняў («Абориген – першыя пасяленцы краю... пракаветнікі, першабытнікі, тутэйшыя. Мы людзі тутэйшыя, пракаветнікі, а не якая набрыдзь чужацкая») і г. д. Чытаць тады такое было незвычайна.

У Мінску перасцярог Рыгор Семашкевіч: «Выдатная рэч, але хавай, нікому не паказвай! Аўтар слоўніка ў нас забаронены! Як і Язэп Лёсік (навуковец, грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік), Алесь Гарун (паэт) ды тыя, што за мяжой, лічыцца ярым нацыяналістам, ворагам народа!» Тады ў нацыяналізме бачылі толькі крайнюю яго праяву – фашызм, а таго, што гэта можа быць свядомасцю, ідэяй змагання за нацыянальна-дзяржаўную незалежнасць, не бачылі. Ды і цяпер многія не адрозніваюць: нацыяналіст ужо толькі за тое, што гаворыш па-беларуску. Праўда, нам, пісьменнікам, некаторым вучоным, настаўнікам, журналістам, ёсць і пэўная скідка. А што да таго экземпляра слоўніка, то яго з маёй валізы хтосьці з сяброў-студэнтаў «пазычыў і не аддаў», цяпер маю толькі факсімільнае выданне.

Рыгор Семашкевіч тады, у 1960-я, праз Ніну Ватацы прыладзіў мяне рабіць заказы ў беларускім аддзеле Ленінкі і чытаць побач з вучонымі мужамі, дык па «Нашай ніве» сярод іншых аўтараў сустрэўся з некаторымі вершамі, легендамі, казкамі, публіцыстыкай і Власта – Ластоўскага, пазней, у перабудову, былі з ім сустрэчы па часопісах «Крывіч» і «Беларускі шлях», а ў 1997 па тому выбранага ў серыі «Беларускага кнігазбору» з выдатнымі прадмовай і каментарыямі Я. Янушкевіча. Былі і іншыя сустрэчы, што ўсе разам дапамаглі ўявіць постаць гэтага асветніка, палітычнага і дзяржаўнага дзеяча, вучонага і пісьменніка далёка не радавога значэння.

«Адзін з галоўных беларускіх нацыяналістаў і ворагаў» нарадзіўся 8 лістапада 1883 года на Дзісеншчыне ў каталіцкай сям'і. Магчыма, ягоныя продкі былі са шляхты. Апошняе важна падкрэсліць таму, што ў XIX ды і на пачатку XX стагоддзяў найперш выхадцы з гэтых слаёў не толькі разам з простым людам захоўвалі, але і развівалі беларускасць – вывучалі і прапагандавалі сваю даўніну, лічылі сябе не «крэсамі» і не «ветвью», а народам са сваёй гісторыяй, культурай і былой дзяржаўнасцю, пісалі па-беларуску, чым абудзілі беларускае пытанне ўвогуле, якое, як бачым, у нас яшчэ як след не вырашана і сёння, на пачатку XXI стагоддзя, хоць ужо даказана імі ж, што мы – «пракаветнікі»!

Ластоўскі ў навучальных установах вучыўся мала – канечне ж з-за нястачы. Змалку зведаў цяжкую сялянскую працу, служыў на паслузе ў крамцы, але вялікае жаданне вучыцца прывяло ажно ў Пецярбург, дзе ўладкаваўся працаваць у бібліятэку і нелегальна слухаць лекцыі свяціл ва універсітэце. З 1902 года Ластоўскі далучаецца да палітычнай дзейнасці, праз год жэніцца са швачкай Марыяй, якая пазней стане літоўскай пісьменніцай, прынясе яму нямала пакут і болю. Новыя шляхі-дарогі прывялі ў Рыгу, дзе ён спрабуе атрымаць дакумент аб адукацыі, але там строга паставіліся да ягоных ведаў па рускай мове і атэстата не далі. Адпаведна, трэба было ісці да святла, да навукі толькі адзіным кірункам для такіх, як ён, – праз самаадукацыю. І праз яе ён спасцігае гісторыю, філалогію, а калі пасля 1905 года дазволілі ўжыванне беларускай мовы (не ўсюды і не ўсім), то і сакрэты журналісцкай прафесіі ў газеце «Наша ніва». Тут ён разам з А. Уласавым, братамі Луцкевічамі, Я. Купалам і іншымі выконваў вялікую навуковую і творчую, асветніцка-культурную, нацыянальную работу для ўсяго беларускага краю. «Наша ніва» – гэта факел (згодна з Ластоўскім – лучнік, лучніца, сьветач) у цемры, у якой трымаў наш народ царызм, агонь быў відаць далёка і радасна вабіў да сябе ўсіх шчырых і свядомых, але з застуджанаю душою. Па-грамадзянску, творча рос Ластоўскі-Власт і сам, а 1910 год для яго ў гэтым сэнсе надзвычай удалы і плённы – найперш з-за публікацыі ў «Нашай ніве», а пасля і з-за выдання ў друкарні Марціна Кухты ягонай «Кароткай гісторыі Беларусі». Сам Ластоўскі сціпла зазначаў, што гэта «па Кіркору». Зразумела, штосьці было ад кіркоравых «Літоўскага Палесся» і «Беларускага Палесся», альбо з тых выданняў, што той рэдагаваў, але Ластоўскі свой твор акрэсліў не проста па прынцыпе вяртання гістарычнай памяці, але ў духу «нашаніўскіх» ідэй, нацыянальнай свядомасці, каб кожнаму чытачу ўзвысіцца над сваёй «тутэйшасцю», адчуць, убачыць, усвядоміць тое, што цяпер дасягненне (дасьціг) у іншых, эканамічна і культурна развітых народаў. Як і ў Купалы – заклік да заняцця свайго «пасаду» паміж дзяржавамі, годна падаць свой голас ва ўсім свеце. Зразумела, мары, мэты, задачы і дзеі былі не простыя, на іх ажыццяўленне патрабаваліся вялікія намаганні і сілы, але ўсё было асвечана высакародным агнём розуму і душы, і, галоўнае, усё было для ўсіх, без узвышэння і ўніжэння кагосьці.



**Давайма супрацоўнічаць!**

# І ён быў са светачам...

(Працяг. Пачатак на стар. 3.)

Сталеючы, набіраючыся вопыту, ён у 1913 годзе, безумоўна, добра разумеў, што і як ужо зрабілі падтрыманыя М. Горкім Я. Купала, Я. Колас і М. Багдановіч, але вырашыў падтрымаць інтэлігенцыю і маладых вядомых пісьменнікаў, падахвоціць іх да дыскусіі пра стан, развіццё тагачаснай літаратуры, пачаўшы гэту дыскусію даволі задзірыста. І Купала, і Гарэцкі адказалі на выклік Юркі Верашчакі, не з усім пагадзіўшыся, але сама тая дыскусія была патрэбна для тагачаснага літаратурнага працэсу, бо разглядаліся, як слушна зазначае Я. Янушкевіч, «шляхі развіцця, творчы метад, кірунак і стыль будучай літаратуры». Пазней шмат робіць для выдання беларускіх школьных падручнікаў.

Як вядома, у сувязі з першай сусветнай вайной «Наша ніва» перастала выходзіць і сканцэнтроўваць вакол сябе маладыя беларускія сілы, хоць у Вільні кайзераўскія акупацыйныя ўлады побач з польскім і літоўскім пытаннямі праявілі інтарэс і да беларускага: да нашай гісторыі, мовы і культуры, дазволілі іх ужытак, вывучэнне ў пачатковых школах, арганізацыю грамадска-палітычных суполак і правядзенне сходаў, пачалі выдаваць пашпарты пабеларуску і г.д. Вядома, ва ўсім гэтым была і свая зацікаўленасць, але тым з беларускіх дзеячаў, хто не пакінуў Вільню, пачалі выкарыстоўваць дазволеныя магчымасці і ўжо ў 1916 годзе ў Лазане вылучылі для ўсёй Еўропы беларускае пытанне, а крыху пазней утварылі віленскую Беларускую раду на чале з А. Луцкевічам, у сакавіку 1918-га менавіта віленцы паўплывалі на ідэю аб'яўлення і сцвярджэння БНР, што, зразумела, было зусім не па густу ні бальшавікам, ні маладым польскім адраджэнскім сілам. Хоць і была, як зараз некаторыя кажуць, БНР «папяроваю», але і за кароткі час яна паспела нямала чаго зрабіць ва ўмовах кайзераўскай акупацыі, разрухі і нястачы (яшчэ да вайны з Беларусі было шмат чаго вывезена, а пазней і мяснікоўцы павезлі ў Смаленск куфры з грашыма, кінулі люд на холад і голад), за кароткі час нямала еўрапейскіх краін прызналі той акт дзяржаўнасці, завялі ў сябе беларускія калі не амбасады, то пэўныя аддзелы. Ёсць ускосныя звесткі, што каб не было БНР, то не было б і БССР, якую хутчэй стварылі як буфер перад Польшчай, як плацдарм для ўварвання ў Еўропу пад сцягам «мировой революции».

Цяпер пра тое можна спакойна разважаць ці спрачацца, а тады за гэтым сталі лёсы і жыцці, будучыня ці, наадварот, безнадзейнасць. У варунках з бальшавікамі і іншымі партыямі, якіх было нямала, з польскімі і літоўскімі дзеячамі, з кайзераўцамі беларускае пытанне зведвала ўзнясенні і падзенні (віленская і мінская Рада, БНР, БССР, нейкая беларуска-літоўская федэрацыя); многія вагаліся-хісталіся, падзяляліся на розныя групы (кажуць, і ў масонаў шукалі шчасця). Ластоўскі ў той віхуры, спрэчны, вельмі зменны час абраў для сябе шлях змагання за БНР як за апошні шанц для беларусаў вярнуць былую дзяржаўнасць. Быў яе прэм'ер-міністрам, за што пад гнеў польскіх улад трапіў у турму. Пасля яго выслалі за межы Беларусі, не давалі спакою і ў Латвіі, правакуючы, што ён падыме «латгальскае пытанне». Знаходзіць прыстанак у Коўна (Каўнасе), дзе яго чакалі вялікія засмучэнні: падчас ранейшых вобыскаў з ягонай бібліятэкі знікла шмат кніг, дакументаў, у тым ліку і старажытных (яшчэ з 1021 года!).

Засмучэнні трэба было перадольваць, і ён робіць гэта новай, тытанічнай працай па беларускай гісторыі, як лічыць Я. Янушкевіч, – «сціслай энцыклапедыяй», якая, «на вялікі жаль, засталася ў выглядзе машынапіснага рукапісу». Ды зноў новыя гаркоты: Савецкая Расія, каб набыць у асобе Літвы саюзнікаў у паходзе на Польшчу, перадае Літве «яе» землі – не толькі Вільню, але і Гродна, Ліду, Браслаў, Паставы, свядома зноў ураззаючы БССР да крошкавай дзяржавы. Ластоўскі спадзяецца, што насельнікам беларускіх абшараў на плебісцыце ўдасца дабіцца сваёй самастойнасці (дарэчы, на гэты конт была цікавая публікацыя польскага вучонага П. Ласоўскага «Беларуская карта ў якасці літоўскага козыра 1918–1924 гг.» у «Беларускай мінуўшчыне» за 1994 год, № 4). У 1920–1923 гадах В. Ластоўскі наведвае многія еўрапейскія краіны, дзе акцэнтуе ўвагу на лёсе Беларусі, якая ў 1921 годзе паводле Рыжскага міру са згоды ці без удзелу Мінска будзе падзелена і дзе ў адной з частак, у заходняй, адразу ж пачнуць уладарыць польскія чыноўнікі, паліцэйскія, асаднікі, зусім не зважаючы, што яшчэ нядаўна палякі і беларусы цярпелі ад царызму, што кіруючыя польскія колы абяцалі сваім нацменшасцям нацыянальна-культурнае, рэлігійнае развіццё. Ды, падкрэсліваў падарожнік, і ў іншай частцы, «незалежнай», амаль нічога няма «свайго» – грошай, войска, пошты, чыгункі, пасольстваў за мяжой. «Ні там, ні тут не мае беларус свабоды... і там, і тут знаходзіцца ў няволі, у рабстве. Катарая няволя горшая, маскальская ці польская, сказаць цяжка, і саламяны, і раменны хамут муляе шыю».

І Ластоўскі «муляў» усім «і там, і тут», Мінску таксама. Мінскія ўлады робяць усё, каб яго зганьбіць, і Ластоўскага прыбіраюць з прэм'ерства рукамі сваіх жа. Новы ўдар, але «не чала я не хіліў прад сілай». Які раз пераадолеўшы горыч, ён бярэцца выдаваць часопіс «Крывіч» грамадска-палітычнага і літаратурнага кірунку на «незалежніцкай» пазіцыі (праз некалькі гадоў літоўскія ўлады прыпыняць выданне, бо палічаць беларускую справу не зусім спрыяльнай сабе), піша прозу (вядомая аповесць «Лабірынты»), у 1926-м бярэ ўдзел у Мінску ў навуковай канферэнцыі па праблемах беларускага правапісу. Не зважаючы на ягоныя часамі агрэсіўныя выпады супраць савецкай улады, яго тут сустрэлі паважліва, запрасілі сюды на працу, паабяцаўшы, што ніякай помсты не будзе, а наадварот, будуць створаны ўсе спрыяльныя ўмовы для навуковай і творчай дзейнасці. Як і некаторыя іншыя «нашаніўцы» і «незалежнікі», Ластоўскі пачынае верыць, што беларускасць можа рэалізавацца толькі ў БССР пры падтрымцы ўлад, назусім пераязджае ў яе сталіцу са сваім архівам, з навенькай, выдадзенай у 1926 годзе ў Коўна кнігай «Гісторыя беларускай (крэўскай) кнігі», дзе аналізуе больш 1 000 важных рукапісных кніг, грамат, старадрукаў з пачатку Х стагоддзя, і пачынае натхнёна працаваць неадменным сакратаром у Акадэміі навук БССР. Піша шмат навуковых даследаванняў і літаратурных артыкулаў, дбае пра новыя слоўнікі, ладзіць этнаграфічныя экспедыцыі, матэрыяльна дапамагаючы са сваіх ганарараў заходнебеларускай інтэлігенцыі (Язэпу Драздовічу, Рыгору Шырме).



*В. Ластоўскі і Я. Купала ў рэдакцыі газеты «Наша ніва». 1913 год*

Ды беларусізацыя заціхала, згортвалася, а калі неўзабаве звольнілі з сакратарскай пасады ў Акадэміі, а пасля і арыштавалі па выдуманай гучнай справе «Саюз вызвалення Беларусі», ён не мог не зразумець: яго, як і іншых, проста двудушна заманілі сюды. Было 10 месяцаў зняволення, допытаў, абраз і абвінавачванняў, хоць урэшце абышліся яшчэ не сурова: выслалі не ў тайгу ці тундру, а ў Саратаў, далі магчымасць працаваць у бібліятэцы. Але з узмацненнем тэрору перагледзелі справу: у 1937-м арыштавалі паўторна, ужо катаваннямі давялі да адчаю. «Я живу между двумя ужасами, – напіша ён следчаму, – ареста жены и ужаса ложного показания. Прошу следствие понять, что я мог дать такие показания только в состоянии психоза, высидев 38 часов на стуле, при угрозе ареста друга моей жизни, инвалида – жены».

Следчых гэты крык ягонай душы зусім не цікавіў. Яны цешыліся, што за 38 гадзін няспыннага допыту (следчыя мяняліся, елі, спалі, а яго трымалі пры напрузе пад святлом – не тым, высакародным, а асляпляльным) дабіліся ад яго «паказаній». А ў іх – не многа і не мала, а «агент польскай разведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі», г. зн. пад расстрэльны артыкул. І 23 студзеня 1938-га, калі яму не было яшчэ і 55 гадоў, яго расстралялі, на паўстагоддзе пазбавіўшы добрага імені, а чытача – ягоных кніг.

***... Ластоўскага рэабілітоўвалі двойчы: у 1958-м з агаворкамі, не для ўсёй грамадскасці, у 1988-м – поўнасцю. У 1990-м вярнулі званне акадэміка, а значыць, і прызналі яго вялікія заслугі перад народам.***

***Да 120-годдзя з дня яго нараджэння апошняе варта і паўтарыць.***

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*



Чацвёртым на Беларусі універсітэцкім горадам, пасля Мінска, Гомеля і Гродна, стаў у 1993 годзе Полацк. А неўзабаве універсітэтамі пачалі звацца амаль усе вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі. З 1991 г. у іх уводзіцца выкладанне беларусазнаўства. З 1992 г. распачала актыўную прапаганду беларускай музычнай спадчыны "Беларуская Капэлла" (мастацкі кіраўнік Віктар Скарабагатаў). У Мінску адкрыўся Дзяржаўны музей беларускай літаратуры. Друкаваліся творы забароненых аўтараў: Францішка Аляхновіча, Ларысы Геніюш, Наталлі Арсенневай, Масея Сяднева. Паэзія Алеся Разанава ўзнялася да ўзроўня сусветных узораў. Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы прызнаў беларускага мастака Леаніда Шчамялёва Чалавекам 1992 г. У наступным годзе ў Маладзечне адкрыўся драматычны тэатр, уведзены ў дзеянне новы комплекс Мінскага харэаграфічнага вучылішча. Беларускі тэатр оперы і балета набыў сусветную вядомасць. Маладзечна стала месцам наладжвання фестываляў беларускай песні і паэзіі.

**Выхад на міжнародную арэну.** Пачалі праводзіцца міжнародныя фестывалі і конкурсы. Сярод іх – фестываль эксперыментальных тэатраў у Мінску пад назвай "Студыйныя калядкі" (1991), фестываль монаспектакляў "Я" у Мінску (1993), музычны фестываль "Славянскі базар" у Віцебску (з 1992 г.), які стаў спадкаемцам былога ў 80-х гг. фестывалю польскай песні, фестываль духоўнай (хрысціянскай) музыкі "Магутны Божа" у Магілёве (з 1992 г.). Праводзіліся штогадовыя кніжныя кірмашы ў Мінску (з 1994 г.). У 1994 г адбыўся I міжнародны мастацкі пленэр імя Марка Шагала ў Віцебску. Выхад на міжнародную арэну стаў важнейшай заваёвай культуры незалежнай Беларусі. Гэтаму спрыялі такія арганізацыі як Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, а таксама Беларускі фонд культуры. Яшчэ ніколі не было так шмат зроблена для беларускага культурнага адраджэння, як за першыя гады незалежнасці.

### 34.5.Вяртанне беларусаў замежжа.

**Агульны абрыс дыяспары.** Разбурэнне СССР і абвяшчэнне незалежнай Рэспублікі Беларусь ускалыхнула беларусаў усяго свету. З'явілася надзея, што Бацькаўшчына ўзнімецца да новага жыцця і сабярэ вакол сябе раней адрынутых сыноў і дочак. Пакінуць радзіму іх прымушалі царскія і бальшавіцкія рэпрэсіі, эканамічная галеча і спадзяванні на лепшую долю за мяжой. Зараз беларускія мігранты ў даволі значнай колькасці жывуць у ЗША, Канадзе, Аргенціне, Англіі, Францыі, Бельгіі, Аўстраліі, Чэхіі і, зразумела, у такіх краінах былога Саюза як Расія, Украіна, Казахстан, Латвія, Эстонія. Асноўнымі цэнтрамі пасялення беларусаў у Расіі сталі Масква, Санкт-Пецярбург, Карэлія, Калінінградская і Мурманская вобласці, Сібір. Аўтахтоннае, але істотна асімілізаванае, беларускае насельніцтва займае раёны Беласточчыны (Польшча), Віленшчыны (Літва), Смаленшчыны (Расія), Чарнігаўшчына (Украіна). Усяго за межамі Беларусі зараз пражывае больш трох мільёнаў беларусаў і іх нашчадкаў. Разам з Бацькаўшчынай беларускую супольнасць твораць больш 13 млн. чалавек.

**Арганізацыі беларусаў замяжжа.** Большасць беларусаў па-за межамі сваёй краіны згубіла нацыянальную адметнасць і нацыянальную самасвядомасць. У другім, трэццім пакаленні гэта здаралася з непазбежнасцю. Але амаль у кожнай краіне, дзе ёсць беларусы, захавалася свядомае нацыянальнае ядро. Большасць беларускіх аб'яднанняў замежжа ўзнікла ў першыя пасляваенныя гады, калі сотні тысяч нашых землякоў апынулася на чужыне ў выніку нацыскай акупацыі і сталінскага гвалту. Зараз яны дзейнічаюць у Вялікабрытаніі, ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Францыі, Польшчы. З 1952 г. у Паўночнай Амерыцы і з 1976 г. у Аўстраліі праводзяцца рэгулярныя сустрэчы беларусаў. Душпастарскую місію на эміграцыі выконваюць Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, Беларуская праваслаўная царква ў канстантынопальскай юрысдыкцыі і Беларуская каталіцкая місія. Беларуская эміграцыя мае на Захадзе два палітычных цэнтры -- Раду БНР і Беларускую Цэнтральную Раду. Адны захоўваюць вернасць ідэалам Беларускай Народнай Рэспублікі (1918), другія лічаць сябе прадаўжальнікамі беларускага ўрада, створанага пад нямецкай акупацыяй у 1944 г. Аднак уся эміграцыя аднолькава не прызнавала савецкай улады ў Беларусі і выступала за яе незалежнасць. Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі культурна-асветніцкія згуртаванні беларусаў узніклі амаль ва ўсіх краінах былога Саюза.

**Нацыянальныя багацці не дзеляцца межамі.** За пасляваенныя гады беларускія эмігранты значна папраўілі сваё сацыяльнае становішча. Яны ўпарта набывалі вышэйшую адукацыю і кваліфікацыю ды ўліваліся ў шэрагі сярэдняга класа. Вядомых багацееў з іх не атрымалася. Але інтэлектуальны капітал выхадцаў з Беларусі – відавочны. Навукова-культурнымі цэнтрамі эміграцыі сталі Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (з 1951 г.), такі ж інстытут у Канадзе (1967), Беларуская бібліятэка і музей імя Францыска Скарыны ў Лондане (1971), Інстытут беларусаведы ў Ляймене (Германія). Увесь свет ведае беларуса па паходжанню, буйнага спецыяліста ў галіне астранаўтыкі Барыса Кіта. Значны ўклад у развіццё беларускай навукі і культуры зрабілі навукоўцы Уладзімір Сядура (Глыбінны), Антон Адамовіч, Вітаўт Тумаш, Павел Урбан, Вітаўт Кіпель, Зора Кіпель, айцец Аляксандр Надсан, знакаміты тэнар Міхась Забэйда-Сумніцкі, кампазітар Мікола Равенскі, паэты Наталля Арсеннева, Майсей Сяднёў, Алесь Салавей (сапр. Радзюк Альфрэд). У Польшчы на карысць беларускай і польскай культуры працуюць выдатны пісьменнік Сакрат Яновіч, мастак Лёнік Тарасевіч, гісторык Юры Туронак.

**Арганізацыйнае гуртаванне дыяспары.** З верасня 1990 г. дзейнічае згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Навукоўцы яднаюцца Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, створанай у маі 1991 г. У снежні 1992 г. адбыўся Першы сход беларусаў блізкага замежжа (краін былога СССР), а ў ліпені 1993 г. -- Усебеларускі з'езд.



*Скарб Думак. № 4.* *Выдаецца з 27 кастрычніка 2003 года.*
*Незалежнае рознабаковае выданне.* *Распаўсюджваецца бясплатна.*
Галоўны рэдактар: Міхась ЛЕБЕДЗЬ. Наклад 299 асобнікаў.
Тэлефон у Менску: 233 61 89. E-mail: lebiedz@tut.by. *17 лістапада 2003 года*

***Разблытайма таямніцы!***